# Голас Радзімы

№ 43 (2185)
25 кастрычніка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**На працягу некалькіх верасnёўскіх і кастрычніцкіх тыдняў Беларускае таварыства «Радзіма» праводзіла курсы павышэння кваліфікацыі для ўдзельнікаў і кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці замежных суайчыннікаў. Гэтым шляхам на базе Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры Міністэрства культуры БССР і ўдасканальвалі сваё майстэрства самадзейныя артысты — носьбіты, сябры і прыхільнікі беларускай культуры з Беластоцкага ваяводства суседняй Польшчы і Нідэрландаў. Тое ўдасканаленне ўвабрала ў сябе і лекцыі на тэмы фальклору, кампазіцыі, і практычныя заняткі: наведванне рэпетыцый мастацкіх калектываў рэспублікі, развучванне і пастаноўка беларускіх народных танцаў, узбагачэнне песеннага рэпертуару. Вучэбная праграма — рэч неабходная, але ўсё, як кажуць, у меру... Таму не быў забыты і другі бок справы — адпачынак.**

**НА ЗДЫМКАХ: група слухачоў курсаў на плошчы Леніна ў г. Мінску; у гасцях у самадзейнага калектыву; у краязнаўчым музеі г. Мядзеля; на Нарачы.**

**(Расказ аб рабоце курсаў змешчаны на 4-й стар.).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**





## ДАЙЦЕ ВОЛЮ КААПЕРАТЫВУ

# А КАБ БЕЗ ЯРЛЫКОЎ...

### ГУТАРКА З ПРЭЗІДЭНТАМ САЮЗА КААПЕРАТЫВАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР Мікалаем СУШАМ

**Наша грамадства ў адносінах да кааператыўнага руху можна падзяліць на дзве няроўныя часткі — асцярожных прыхільнікаў і ярых праціўнікаў. Для адных слова кааператар гучыць як чалавек, які нават у нашых умовах згаледасці і эканамічнага бязладдзя здольны паказаць сваю прадпрымальнасць, сапраўдную гаспадарлівасць, для другіх — як спрытнюга, спекулянт і ледзь ці не «вораг народа».**

**Дык што ж ўсё-такі савецкія кааператывы? Як яны ўпісваюцца ў наша жыццё?**

*— Мікалай Васільевіч, вы ведаеце, што большасць людзей у нас лічаць кааператывы злом, якое паслана нам за грахі перабудовы. Вядома, вы станеце сцвярджаць адваротнае: кааператывы — усе-такі дабро. Якія вашы аргументы?*

— Відаць, той, хто лічыць кааперацыю ліхам, і не можа мець іншай думкі: яна ж фарміруецца пад уздзеяннем пэўнай ідэалогіі. А ідэалагічная машына, запушчаная некалі, спраўна дзейнічае і сёння. Наша прэса па-ранейшаму аднабока асвятляе кааператыўны рух.

Але ж не віна кааперацыі што мы зайшлі ў эканамічны тупік. Проста ідэалагічная машына, як гэта ў нас водзіцца, шукае вінаватага. Найлягчэй было паказаць пальцам на кааператара: ату, яго! Вось хто віноўнік разбалансаванасці рынку! Няма сёння тэлевізараў, халадзільнікаў, а тут яшчэ цыгарэт не стала — значыць, кааператары скупілі...

Дарэчы, ваша сцвярджэнне, што большасць насельніцтва супраць кааперацыі, на сённяшні дзень спрэчнае.

*— Чым вы можаце гэта даказаць?*

— Мне даводзіцца часта бываць у працоўных калектывах, і я там чую многа прыхільных меркаванняў наконт кааперацыі. Я балаціраваўся ў народныя дэпутаты рэспублікі ў Заводскім раёне Мінска, дзе большасць рабочых. Праўда, я прайграў барацьбу за мандат, але мой рэйцінг — 28 працэнтаў.

*— Гэта даволі высокі рэйцінг для «галоўнага» кааператара Беларусі.*

— На нас працуе час, і ён пераканае, што кааперацыя — гэта дабро. Ды не толькі кааперацыя, а і фермерства, і асабістая прадпрымальнасць. Чым больш таваравытворцаў, тым больш будзе тавараў. Ужо сёння мы займаем не апошняе месца ў эканоміцы рэспублікі — у мінулым годзе наша кааперацыя выканала аб'ём работ і паслуг на 1 мільярд рублёў. Гэта значная частка ў вытворчасці нацыянальнага валавога прадукту.

Калі даць нам магчымасць працаваць, то праз год-два, мяркую, працэнтаў 60 вытворчасці тавараў народнага спажывання і аб'ёму работ па бытавых паслугах будзе належаць кааператыўнаму сектару, як і ва ўсіх развітых краінах. А гэта значыць, што наш рынак пачне запаўняцца таварам.

*— «Калі даць магчымасц працаваць»... Які сэнс вы ўкладваеце ў гэтыя словы?*

— Мы пакуль што не маем эфектыўных эканамічных рычагоў, гэта значыць — законаў, якія рэгулявалі б адносіны таваравытворцы са спажыўцом, з дзяржавай. У нас па-ранейшаму адчуваецца юрыдычны валюнтарызм.

*— Мікалай Васільевіч, у многіх з нас такое ўяўленне, што кааператывы ў нас толькі тое і робяць, што перапрадаюць. Ну, яшчэ часта чуеш пра кааператыўныя кафэ, у якіх усё страшэнна дорага.*

— Гэта, мякка кажучы, не зусім так. У Беларусі гандлёвых і кааператываў грамадскага харчавання не так ужо і многа. Давайце зазірнём у люстэрка статыстыкі. Сёння ў нас дзейнічае 5 646 кааператываў. Дарэчы, у іх занята 135 тысяч чалавек. І з гэтай колькасці кааператываў гандлёвых толькі 25, грамадскага харчавання — 24, гандлёва-закупачных — 73. Вось і ўсё. Такія кааператывы развіваюцца ў кожнай дзяржаве, а ў нас іх задушылі падаткамі. Колькасць іх скарачаецца. Вось мы сёння трымаем накірунак да фермерскіх гаспадарак. Скажыце, хто фермеру закупіць трактар? Хто яму даставіць угнаенні? У яго павінны быць пасрэднікі. Без іх ва ўсім свеце нічога не робіцца і ў нас нічога не будзе. А мы іх гнём падаткамі! Атрымліваецца так, што з цэласнага механізма мы выкідваем нейкую частку, але хочам, каб механізм працаваў.

*— Чым, вы лічыце, вытлумачыць такі распаўсюджаны погляд, што кааператары грабуць грошы лапатай? Што ў іх незаслужана высокія заробкі?*

— Нас доўга прывучалі да ўраўнілаўкі, з пакалення ў пакаленне. Мы павінны аднолькава жыць, не ўлічваючы, хто як працуе. А тут людзям далі магчымасць атрымаць за сваю працу, а не за выхад на рабочае месца. І адбыўся рэзкі скачок. Вось і пайшла зайздрасць: кааператар атрымлівае многа, вось ён ужо і дом збудаваў, і машыну купіў. Гэта — ураўняльнае мысленне: чаму мы робім быццам аднолькава, а ён жыве лепш за мяне? Вось адсюль і негатыўнае стаўленне да кааператараў.

*— Згодзен, але недавер, падазронасць выкліканы не толькі зайздрасцю. Вы ж не станеце адмаўляць, што за кааператарамі цягнецца і благая слава: розныя крымінальныя злачынствы?*

— На гэта дае адказ афіцыйная статыстыка Міністэрства ўнутраных спраў СССР. А яна сведчыць у нашу карысць: у кааператыўным сектары эканомікі злачынстваў значна менш, чым у дзяржаўным.

І наогул гэты [illegible]зел на кааператараў і н[illegible]ператараў штучны. Яго прыдумалі для таго, каб на нас лягчэй было навесіць ярлык. А гэта ў нас любяць. Даходзіць да парадоксаў. Нехта зрабіў нейкае злачынства. Пык на пытанне: хто гэта зрабіў? — вам адкажуць: кааператар. Хоць у чалавека ёсць і імя, і прозвішча, і месца, дзе ён жыве. Усе мы — грамадзяне адной краіны. І з гэтага трэба зыходзіць.

А наконт злачынстваў сярод кааператараў — так, яны ёсць. І не можа быць інакш, бо мы ўсе — прадукт аднаго грамадства. Але вазьміце дзяржаўнае прадпрыемства ці калгас — там 95 працэнтаў «несуноў». А з кааператыва, са сваёй фермы ніхто нічога не ўкрадзе і не панясе дамоў. Няма неабходнасці. Навошта мне класці ў кішэню цвік і несці яго дамоў, калі я яго заб'ю, куды трэба, і атрымаю за гэта ў тры разы болей...

А з негатыўнымі з'явамі ў кааператывах мы самі змагаемся. Выкарыстоўваем прэсу: даём антырэкламу тым кааператывам, якія выпускаюць прадукцыю нізкай якасці. Даём адпаведную ацэнку на сваіх саветах, прэзідыумах, з'ездах. Гэта адна з функцый нашага саюза. Такія з'явы мы ўспрымаем востра і ставімся да іх прынцыпова, бо даражым сваёй рэпутацыяй.

*— Мне хацелася б усё ж такі, каб вы развеялі міф аб «дармовых» грашах, таму раскажыце, калі ласка, адкуль у кааператараў такія вялікія заработкі. З чаго яны складаюцца?*

— У кааператыве людзі працуюць не так, як на дзяржаўным прадпрыемстве. Працуюць столькі гадзін, колькі могуць працаваць. Ужо з гэтага можна меркаваць, як «лёгка» даецца кааператару рубель. Гэта — першае. Другое: вялізная эканомія матэрыялаў. Хаця ў нас нідзе не вісіць лозунг: эканомце тое ці іншае. Рабочы і без гэтага разумее, што кожная цагліна, кожны цвік, пушчаныя ў справу, павышаюць яго заработак. Вось вам элементарны прыклад. Дзяр-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## ДОБРЫЯ ТРАДЫЦЫІ



**На рэдкасць пагодлівая для сёлетняй восені выдалася мінулая нядзеля ў Пінску. Сонейка зіхацела ў золаце лістоты, у рознакаляровых флагах, што па-святочнаму ўпрыгожылі вуліцу Леніна і ўваход у гарадскі сквер на беразе Прыпяці, у медзі аркестраў, што гучалі на адкрыцці традыцыйнага свята горада.**

**Тут было цікава ўсім. Заядлыя калекцыянеры азнаёміліся з выстаўкай, арганізаванай філатэлістамі і нумізматамі. У атэльe «Хваля» модніцы горада паглядзелі дэманстрацыю новых мадэляў, выкананых фабрыкай мастацкіх вырабаў і камбінатам бытавога абслугоўвання. Аматары-кветаводы і садаводы зацікавіліся выставай кветак і дароў саду і агарода, арганізаванай мясцовай станцыяй юннатаў і саўгасам «Кветкі Прыбужжа». Вуліца Леніна ў гэты дзень ператварылася ў вялікі святочны гандлёвы рад. Тут прапаноўвалі свае лепшыя вырабы кулінары, разнастайныя фрукты і гародніну — саўгасы і калгасы раёна, розныя паробкі.**

**На ўсіх канцэртных пляцоўках Пінска гучалі беларускія песні, вадзіліся карагоды.**






**НА ЗДЫМКАХ: запрашае кірмаш; у святочным карагодзе; вырабы навучэнцаў прафесійных вучылішчаў горада.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

*МНЕНИЯ И СУЖДЕНИЯ*

# КАКИМ ОН БУДЕТ, НАШ СОЮЗ?

**ОБ ЭТОМ РАЗМЫШЛЯЕТ КАНДИДАТ ЮРИДИЧЕСКИХ НАУК Михаил РАССОЛОВ**

Принятие союзными республиками деклараций о суверенитете и независимости, предварительные итоги проведенных консультаций между рабочими группами Верховного Совета страны и Верховными Советами союзных республик еще раз показали, что прежним наш Союз уже не будет. Спасти его от угрозы распада или, что еще хуже, мгновенного развала может, как считает автор, только совершенно новая, гибкая форма динамично развивающейся, самоуправляемой федерации с конфедеративными элементами.

Какие же черты будут, по мнению М. Рассолова, характеризовать эту новую структурную форму? Прежде всего, как видно из отдельных деклараций и актов о независимости и суверенитете, новый Союз будет представлять собой независимое, многонациональное, государственное сообщество. Его членами смогут стать не только сугубо социалистические, но и многоукладные республики, допускающие трудовые капиталистические отношения. Экономической основой объединения этих «разноформационных» государственных образований, считает автор, будет регулируемый рынок, предполагающий не грубую денационализацию государственных предприятий, как думают некоторые политики, а их разгосударствление. По существу, речь идет о предоставлении этим предприятиям полных прав на владение, пользование и распоряжение своим имуществом, полной хозяйственной самостоятельности, конечно, при наличии различных форм собственности.

Но что же будет собственностью самого Союза, спрашивает автор. Ведь если принять за основу предложения некоторых республик, то как быть тогда с экономической системой и собственностью Союза вообще? Как быть с положениями действующей Конституции СССР, регламентирующей эти вопросы? На них придется отвечать, да и быстро решать их путем совместных усилий, взаимных переговоров, считает М. Рассолов. В печати и в ходе обсуждений высказывались и высказываются самые разные мнения о компетенции Союза СССР, центральных органов власти и управления.

Видимо, станет реальностью разная мера вхождения союзных республик в новый Союз. Значительная часть советских республик, по мнению автора, будет добровольно входить в состав СССР на федеративных принципах, передавая Союзу больше своих прав и функций и получая от этого значительные компенсирующие выгоды, отдельные — почти на конфедеративных принципах, передавая очень мало прав и функций и не пользуясь этими выгодами. И в результате получится необычное для мировой практики смешанное государственное сообщество. Образование, куда как государственные субъекты, очевидно, войдут и автономные республики.

Не исключена и возможность (что уже и происходит) образования и вхождения в состав СССР новых союзных и автономных республик, а также уточнение границ новых государственных образований. Правомерны или неправомерны эти вопросы, очевидно другое — их следует глубоко и всесторонне исследовать и рассматривать в процессе заключения нового Союзного договора. Иначе этими проблемами неминуемо придется заниматься потом, жизнь заставит. Ведь межрегиональные споры и разногласия будут возникать постоянно, считает автор.

Как же смогут разрешаться эти проблемы? По мнению М. Рассолова, в будущем можно было бы поручить рассмотрение таких споров и разногласий по двум линиям: Совета Союза и Совета Национальностей Верховного Совета СССР и по линии Конституционного суда СССР, который может быть создан на базе Комитета конституционного надзора.

Возникает и необходимость, подчеркивает М. Рассолов, в построении новой системы взаимоотношений союзного, республиканского законодательства и норм международного права, а также в быстрейшей разработке и принятии новой Конституции СССР. При этом следует учесть все пожелания республик и приоритет правовых норм и принимать все общесоюзные правовые акты только на основе полного согласия республик. В отдельных случаях, которые следует четко обговорить в Конституции СССР, можно было бы признать верховенство республиканских законов над союзными и предоставить право республикам вносить уточнения в союзные акты, исходя из их интересов, специфических условий и потребностей. А в случае расхождения внутреннего законодательства СССР (включая республиканское) с нормами международных актов и договоров должны, по мнению автора, действовать последние. Это — обязательное правило цивилизованного правового государства.



Вечереет. Фото А. СИДЛЕРОВА.

*ПРОШЛОЕ И НАСТОЯЩЕЕ*

# О ЧЕМ МОЛЧИТ КАТЫНСКИЙ ЛЕС

**В июне 1990 года УКГБ Тверской области сообщило о том, что третье захоронение польских офицеров, расстрелянных в 1940 году, находится в 32 километрах от областного центра возле села Медное. Сейчас на этом месте (как под Харьковом и под Смоленском) расположены дачи для работников местного КГБ.**

Чуть больше года понадобилось редакции газеты «Московские новости» для того, чтобы раскрыть тайну гибели пятнадцати тысяч польских офицеров, интернированных СССР во время раздела Польши по договору Риббентропа—Молотова. Весь мир вел это расследование 50 лет.

Нельзя сказать, что никто не догадывался об истинном виновнике этого преступления. Но взаимоисключающие версии советской и немецкой комиссий ставили в тупик «присяжных поверенных», желающих оперировать только фактами, а не эмоциями и слухами...

Очень хорошо помню свою растерянность в первый приезд в Смоленск в июне прошлого года. Два дня бесконечных поисков, расспросов, визитов, а пленка диктофона чиста. Единственный возможный свидетель, о котором я знал из анонимного письма, не открыл дверь, долго рассматривая меня через дверной глазок. И вдруг — ночной телефонный звонок:

— Вы хотите что-то знать про Катынь? Приходите в скверик напротив вашей гостиницы. Магнитофон не берите, иначе я говорить не буду.

Я вылетел на улицу, все еще не оставляя мысли, что это не что иное, как чей-то розыгрыш. Зачем такая таинственность, почему именно ночью?

Скверик был пуст. Я сел на лавочку и закурил. Трудно сказать, откуда он появился. Конечно же, в плаще и шляпе, напяленной на уши. Присел рядом.

— Я работал в здешнем НКВД до войны простым делопроизводителем,— сказал он. — О расстреле в Козьих Горах слышал только краем уха, об этом не любили говорить. Но однажды утром в управление, несмотря на то, что часовой угрожал пристрелить его на месте, стал рваться человек. Он был грязен, глаза его горели, как у сумасшедшего. «Меня неправильно расстреляли, — твердил он, — произошла ошибка».

Было еще очень рано, и работавшие по ночам оперативники пока не пришли на работу. Мой начальник, чтобы не создавать лишнего шума, которого в нашем учреждении очень не любили, провел этого человека в здание управления. Мы его ни о чем не расспрашивали, сам все рассказал. Его расстреляли в лесу у деревни Козьи Горы с большой группой заключенных. И не закопали, а чуть присыпали песком. А он даже не был ранен, просто от страха потерял надолго сознание. Очнувшись, выкопался и пришел к тем же, кто его приговорил к смерти. Позже я прошел войну, но ничего более страшного, чем тот момент, не испытал никогда. Случайно спасшийся человек сам вернулся к своим палачам. Ему просто некуда было идти. Наше высокое начальство невиданно переполошилось. От растерянности они его отпустили, выдав паспорт на другую фамилию и потребовав, чтобы он уехал в другой город. Жил человек — Иванов, а теперь стал Петровым. Я сам ему выписывал документы. Конечно, может быть, потом где-то они его все же прикончили...

— Скажите, а поляки?

— И поляков тоже мы. Только я вам не советовал бы копаться в этом деле. Не один из тех, кто что-то знал, вместо ордена на грудь получал пулю, попадал под поезд, тонул в реке.

Он так и не назвал своего имени. Ушел в ночь, не оставив мне ни адреса, ни телефона.

— Я не герой,— сказал он на прощание. Тогда я тоже так подумал. Теперь уже думаю совсем иначе. Он был первым в череде героев, нарушивших обет молчания. Знавших, какое возмездие может последовать за их признанием. Вторым будет Иван Кривозерцев, чьи показания фигурировали на Нюрнбергском процессе. Конечно же, в пользу советской версии. Он был один из немногих, кто участвовал в эксгумации трупов при работе немецкой комиссии. Когда из польского захоронения вначале извлекли 16 тел русских евангелистов, он сразу понял, что слухи о расстрелах поляков работниками НКВД не были слухами. Немцы наших верующих не расстреливали.

Следующим героем стал майор КГБ Олег Закиров. Возмущенный ложью начальника УКГБ Смоленска генерала Шеверских (тот накрепко заверил редакцию «МН» в отсутствии документов и свидетелей), он предъявлял живым ветеранам «органов» свое удостоверение и просил сообщить мне все, что они знали. А знали они очень многое: сколько людей расстреляно в Козьих Горах, как убивали поляков, заверив их, что везут домой...

И еще один герой найдет меня сам. Он тоже пожелает остаться неизвестным, но разрешит загадку нахождения дневников и писем с датами 1943 года в захоронениях поляков. Сразу же после освобождения Смоленска за две недели до прибытия комиссии Бурденко он вместе с группой военнослужащих основательно поработал в Катынском лесу. В захоронение были подброшены немецкие гильзы, польские газеты 43 года, письма, все еще ищущие своих адресатов, дневники...

— Это была грязная работа, — скажет он.— За нее я сам себе заплатил бессонницей и вечным страхом.

А 83-летний Иван Титков, шофер девяти начальников НКВД, и его семья со скандалом выгонят тех людей, которые попытаются запугать их страшными карами. Без него мы вряд ли бы узнали точные места захоронений как советских, так и польских граждан.

Но в процессе расследования встречались и негерои. Негероем была женщина, теперь уже глубокая старуха, которая весной 1940 года стала невольной свидетельницей расстрела поляков. Все это она охотно рассказала мне, сдвигая, как велено было, дату расстрела на 1943 год, а исполнителями преступления называла немцев. На прощание она с великой непосредственностью поинтересовалась, не могут ли те, кто велит так говорить, перечислять деньги не раз, а два раза в месяц. Значит за страх до сих пор платят?

Жаль, что мало нашлось героев в Харькове. Старики упрямо молчали, отводили глаза, твердили, как навечно кем-то заведенные: «Слыхом не слыхивали, знать не знаем». Пожелал остаться безымянным и сын шофера, возившего убитых поляков на Черную дорогу в лесной массив, именуемый в документах как квадрат номер шесть...

Пожелай КГБ, и оно провело бы расследование не так по-дилетански неумело и долго. Этой акцией можно было публично отречься от страшных грехов Ежова и Берии. Ан нет. КГБ не только не помогало, а все больше мешало. Генерал Шеверских звонил мне перед Новым годом в тревожном предчувствии, получив от своих подчиненных запоздалые сведения о нашем очередном «налете» на Смоленск, о съемке дач КГБ в Козьих Горах. Советовал отправиться в Австралию на поиски некоего бывшего полицейского Алферчика, вместе с немцами вскрывавшего польские захоронения и лично участвовавшего в фальсификации. Харьковский генерал КГБ, глядя мне сочувственно в лицо, горько сетовал на отсутствие в архивах документов по расстрелу поляков. И чуть ли не на следующий день вытащил их «из-под лавки», осознав наконец, что дальше их скрывать бессмысленно.

Зачем же нужно было пять лет назад смоленским чекистам лгать и указывать полякам ложное место захоронения? На пустом месте установлен крест и разбита могила. Нет под ними останков польских офицеров, убитых в 1940 году, не здесь лежат их тела. Зачем? А затем, чтобы рядом оказалась могила расстрелянного немцами десанта Красной Армии. Видите, мол, чей это почерк!

Но обо всем ли теперь рассказал нам Катынский лес? Нет, не обо всем, как Харьковский и Тверской. Лежат там бок о бок с поляками русские, евреи, украинцы и латыши. Не разделял «великий отец народов» людей по национальности и на этом, и на том свете. Лежат там и чекисты-пособники «железных» наркомов Ягоды и Ежова, виновные в предыдущих злодеяниях и не понадобившиеся сменившему их сталинскому комиссару Берии. Все оказались равными перед смертью, потому и легли в «братские» могилы.

**Геннадий ЖАВОРОНКОВ.**

● ВАЛЕРЫЙ ШКАРУБА ПРАЦЯГВАЕ ТРАДЫЦЫІ РЭАЛІСТЫЧНАГА ПЕЙЗАЖА

● МІКРА- І МАКРАКОСМАС МАСТАКА ● ШТО ТАКОЕ «ДЫЗАЙНЕРСКІ ЖЫВАПІС»

# «ШУКАЮ ЗГУБЛЕНУЮ ГАРМОНІЮ»

З Валерыем Шкарубам я пазнаёмілася тры гады назад. Ён паказваў свае пейзажы на выстаўцы «Чарнобыль. Чорная быль», напісаныя пасля паездкі ў зону аварыі. Усё на іх было жывое, сапраўднае, беларускае. Трава, зямля, дрэвы, туман, паветра, неба — адухоўленыя. Прырода мела пахі і гукі. Знявечаная рукамі чалавека, яна прасіла літасці. Беларусь паўставала на гэтых палотнах такой блізкай, такой чароўна-прывабнай і адначасова бездапаможнай, спакутаванай і знясіленай. Эмацыянальнае ўздзеянне пейзажаў гэтага аўтара было надзвычай моцнае. Сам ён, высокі, танклявы, са строгасцю ў поглядзе, негаваркі, рабіў уражанне чалавека неардынарнага, з небанальнымі поглядамі і ўчынкамі.

Летась гледачы змаглі больш грунтоўна пазнаёміцца з творчасцю маладога для іх жывапісца — на персанальнай выстаўцы, што праходзіла ў рэспубліканскім Доме мастацтваў. Да чарнобыльскіх палотнаў Валерый Шкаруба дадаў яшчэ дзесяткі два новых. Напісаныя простай, даступнай кожнаму чалавеку мовай, напоўненыя шчырымі пачуццямі нераўнадушнага чалавека, цеплынёй, душэўнасцю, яны выклікалі непадробнае захапленне гледачоў і крытыкаў. Дарэчы, апошнія назвалі (і не без падстаў) Валерыя Шкарубу лідэрам лірыка-рамантычнага пейзажнага жывапісу рэспублікі. Спрытныя замежныя аматары выяўленчага мастацтва, між іншым, ужо паспелі вывезці ў Францыю і ЗША каля двух дзесяткаў яго карцін. А пасля нядаўняй выстаўкі беларускіх мастакоў у ААН у Нью-Йорку, дзе былі прадстаўлены і сем пейзажаў В. Шкарубы, у наша прадстаўніцтва быў перададзены ліст ад суайчынніку з Амерыкі. «Шчырае дзякуй за радасць сустрэчы з Радзімай на карцінах мастака з Менска Шкарубы,— пішуць яны,— ён так добра адчувае характар нашай прыроды, а яго пейзажы, прасякнутыя пяшчотнай любоўю да роднага краю і трывогай за яго лёс, лепш за газеты і кнігі расказалі, што цяпер адбываецца на Бацькаўшчыне».

...У Валерыя Шкарубы быў не самы ўдалы для сустрэчы з журналістам час. Толькі-толькі нарадзілася дачка, і на яго, як на галаву сям'і, навалiліся немалыя клопаты. І ўсё ж ён вырваўся на якую гадзіну ў рэдакцыю. Сказаў: «Нічога не запісвайце ні ў блакнот, ні на дыктафон, бо не паспеем. Гутарым пра ўсё. І глядзім мае новыя пейзажы ў майстэрні. Бо цяпер няхутка вазьмуся за пэндзаль». Выцягнуў на сярэдзіну маленькага пакойчыка яшчэ не аформленую як след, без рамы, карціну, потым другую. Стаў прыносіць з кладоўкі ўжо бачаныя на выстаўках пейзажы, эцюды, накіды. Цікава, падумалася, дзе мастак знаходзіць такія прыгожыя мясціны?

— Ды вось тут, у ваколіцах мікраёна Уручча, дзе я жыву і працую, — паказаў ён рукой праз акно.— Трэба толькі ўмець бачыць. А людзі ў асноўным як жывуць? З дому на работу, з работы ў магазін, адтуль дамоў. Вось і ўся праграма. Звярніце ўвагу на пейзаж з яблыневым садам. Калі едзеш па Ленінскім праспекце ў Зялёны Луг, на правым баку той самы сад. Калі хочаце ведаць, усе мае ранейшыя пейзажы зроблены ў час паездак інстытута, дзе я працую, на ўборку садавіны і гародніны. Ёсць у нас такая форма дапамогі вёсцы. Але не пра тое размова. Я тады імкнуўся як мага хутчэй выканаць сваю норму і ішоў на эцюды.

Міжволі прыгадаліся карціны, што, як сказаў Валерый, пісаліся ў час сезонных работ супрацоўнікаў іх інстытута на ўборцы ўраджаю. ...Старыя вясковыя могілкі. Пахіліліся, вось-вось палягуць на зямлю крыжы, забыты нашчадкамі магілы бацькоў і дзядоў. Няма каму даглядаць іх — людзі паехалі шукаць лепшую долю па гарадах. У вёсках засталіся толькі нямоглыя старыя. Так адбываецца маральная, духоўная дэградацыя народа, нібы гаворыць сваім творам мастак, і адзін з момантаў — адносіны да свайго мінулага, да спрадвечных звычаяў і традыцый. Альбо вось яшчэ краявід: сонная бязлюдная вясковая дарога. У тумане нейкімі казачнымі і загадкавымі выглядаюць традыцыйныя сялянскія пабудовы. Але вялізная лужына на дарозе, у якой гэтак жывапісна адбіваецца і неба, і дрэвы, адразу выводзіць з рамантычнага настрою і вяртае ў рэальнасць. У суровую рэальнасць: не прайсці, не праехаць, і месяць тутэйшым жыхарам дарогу да самай зімы, пакуль не падмарозіць. І хаця няма людзей у кампазіцыі, але выразна бачацца тыя, хто жыве ў гэтых хатах уздоўж дарогі — муж[illegible]і, кабеты, дзяўчаты, падлеткі — у[illegible] ў нязграбных ботах, у адзенні, што нагадвае уніформу. Такі вось пейзаж.

Адна дэталь з творчай біяграфіі Валерыя Шкарубы. Так высока ацэненыя сёння з мастацкага боку яго работы ніяк не ўспрымаліся яго ж калегамі яшчэ га[illegible] пяць назад. «Ты не жывапісец, ка[illegible]лі яны, нічога ў цябе не атрымліваецца, а тое, што ты робіш, — бездапаможная самадзейнасць, няма чаго сунуцца не ў сваю справу». У такой сітуацыі не зламацца, працягваць пісаць было няпроста. Характар трэба было мець моцны. Тым больш, што Валерый і сапраўды па адукацыі не жывапісец, а дызайнер. Пасля заканчэння інстытута быў накіраваны на працу па спецыяльнасці. Яго рабочы кабінет ператвараўся і ў майстэрню, і ў студыю для занятка з дзецьмі. Студыю, можа занадта сказана. Гурток з дзесяці дзетак, падобны на той, які ён сам некалі наведваў школьнікам.

Але не пісаць ён, відаць, проста не мог. Хадзіў на эцюды, ездзіў у вандроўкі разам з сябрамі, жывапісцамі Кастусём Качаном, Міколам Ісаёнкам, Уладзімірам Кожухам. Яны дапамагалі яму парадай, добрым словам.

— Я адчуваю сябе вольным чалавекам. Пісаў тады, калі душу перапаўнялі радасць альбо боль. Увогуле ніколі не працаваў па заказу, не заключаў ніякіх дагавораў. І лічу, што мастак не павінен належаць ні да якіх партый, ні да якіх арганізацый.

Аднак, прапаведуючы поўную свабоду і незалежнасць ад каго б там ні было, сам Валерый Шкаруба, тым не менш, як я ведаю, уступіў летась у Саюз мастакоў БССР.

— Як гэта зразумець, Валерый?— папыталася я ў яго.

— Вельмі проста. Член Саюза мастакоў мае права выстаўляцца, паказваць свае работы. Гэта для мяне самае галоўнае. Але членства ў саюзе не абмяжоўвае маю волю, не пазбаўляе свабоды. Я пішу, як і раней, тое, што хочацца, і тады, калі хочацца. За пэндзаль бяруся, як цалкам выспела ў галаве задума, кампазіцыя. Сам працэс пісання карціны займае няшмат часу. Але ж абставіны жыцця такія, што, акрамя работы ў інстытуце, займаюся яшчэ і з дзеткамі ў студыі. Выкладваюся з імі цалкам. І тады ўжо адчуваю сябе, як выціснуты лімон. Ды і як жа інакш? У любое надвор'е вядуць бацькі сваё дзіця на заняткі. Па-чалавечы несумленна было б з майго боку не аддаваць ім усю душу.

Непрыстойна, сорамна, несумленна... Ці многія з нас жывуць і дзейнічаюць, зыходзячы з такіх маральных катэгорый? На жаль, не. В. Шкаруба, пэўна, з меншасці. І калі ўспомніць загадкавую прывабнасць яго лірычных пейзажаў нават для прагматычнага гледача, а потым паспрабаваць знайсці прычыну, таямніцу такой прывабнасці, то акажацц[illegible] што яна — у асобе аўтара, чые ў[illegible]аадносіны са светам і з прыродай [illegible]лыбока маральныя.

Імпануе сучаснаму гледачу, запалоханаму прагнозамі аб недалёкіх прыродных катаклізмах і надыходзячым канцы свету, і тое, [illegible] мне здаецца, што мастак у гэть[illegible]егарманічным свеце ўвесь час імкнецца знайсці гармонію альбо намацаць прычыну дысгармоніі. Узяць хаця б яго вясковыя пейзажы. Мастак далёкі ад ідэалізацыі рэчаіснасці. Ведае, як на самай справе жывецца селяніну, адлучанаму і ад зямлі, і ад плёну працы сваёй. Неаднойчы бачыў кінутыя хаты, гаспадары якіх паехалі ў вялікі свет шукаць лепшай долі. З выміраннем сяла, знікненнем селяніна не хоча і не можа ён змірыцца. Бо спрадвеку зямля, лес давалі ўсё неабходнае для жыцця. Усім ладам сваіх пейзажаў ён прымушае гледача задумацца, зразумець, што чалавек непарыўна звязаны з прыродай і праз яе далучаны да агромністага свету, да Космасу, нарэшце.

«Як свядомы грамадзянін мастак сфарміраваўся пасля паездкі ў чарнобыльскую зону,— кажа пра Валерыя Шкарубу мастацтвазнавец Яўген Шунейка.— На выставе, прысвечанай гэтай паездцы, я заўважыў у яго пейзажах яснае ўсведамленне трагедыі, якая адбылася. Яшчэ крывадушна маўчалі сродкі масавай інфармацыі, а творы мастака паказвалі злавесныя перамены, што адбываліся ў прыродзе. У пакінутых вясковых сядзібах бачылася мастаку жудаснае папярэджанне. Экалагічная трывога з таго часу не знікае ў творах мастака.

Шкарубу ўжо нельга ні з кім пераблытаць, ён умее адкрываць унікальнасць, таямнічасць вобразаў роднай зямлі, ён умее гэта данесці вельмі незвычайнымі жывапіснымі сродкамі. Стыль мастака можна акрэсліць як «дызайнерскі жывапіс». Атрыманая ім адукацыя дызайнера аказала свой спецыфічны ўплыў на яго працу, на канструктывізм мыслення, на тэхнічныя прыёмы, на адносіны да формы».

Валерыя Шкарубу сапраўды ўжо немагчыма ні з кім з яго калег зблытаць. Настолькі своеасаблівае характар на яго работах. І гэтае характва ў даволі змрочным, пазбаўленым духоўных асноў і радасных перспектыў жыцці—надзея. Надзея на гармонію, без якой чалавеку так цяжка на зямлі.

Таццяна АНТОНАВА.



В. ШКАРУБА. Пейзаж.

## САМАДЗЕЙНЫЯ ТАЛЕНТЫ ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА







**Багаты на таленты Глыбоцкі раён. З даўніх часоў славяцца яго вёскі спевакамі і музыкантамі, самадзейнымі мастакамі і кавалямі, рэзчыкамі па дрэву, ткачамі. Гэта неацэнная спадчына тут клапатліва захоўваецца, традыцыі майстроў працягваюцца ў новых пакаленнях.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае ансамбль ветэранаў з вёскі Галубчыкі калгаса «17 верасня» ў час аднаго з фальклорных святаў, якія часта праводзяцца на беразе старога возера ў цэнтры Глыбокага; самадзейны мастак інвалід Хведар СУХАВІЛА. Яго маляўнічыя дываны ўпрыгожваюць дамы многіх аднавяскоўцаў; удзельніца мастацкай самадзейнасці вучаніца сярэдняй школы № 1 Наташа ГАРЛО.**

# «РАБІ ЛЮДЗЯМ ДАБРО...»

**МАНАЛОГ МАЙСТРА-РАЗЬБЯРА Пятра ЗЯЛЯЎСКАГА З ВЁСКІ СЛАБОДКА БРАСЛАЎСКАГА РАЁНА**



— Зацікавілі мае фігуры? Ну глядзі, глядзі... А лепш ідзі во садзіся, ды я табе раскажу што-небудзь.

Я ж равеснік рэвалюцыі. У нас тут, праўда, Польшча была, то і жыў я, як мае бацькі жылі. Войны прайшоў, на польскай быў у трыццаць дзевятым. Як немец наступаў, я якраз у польскай арміі быў. А што ў нас тады было? Конь ды ногі. Дык мы ад самай Сакулкі аж да Пінска дайшлі. А там кажуць: хочаце — у Румынію, хочаце — яшчэ куды. А што мне тая Румынія? Я дадому пайду. Вярнуўся дадому, тут і ажаніўся з дзяўчынаю, беднаю, як і я. І ў яе нічога, і ў мяне нічога, адна талерка на дваіх. Дык гэта ж трэба: неяк жонка з печы ўпала — ды і пабіла тую апошнюю талерку. Ну што ж, кажу, халера яе бяры, будзем неяк і без талеркі. І жылі ж, дзякуй Богу.

Бацька мой разумнейшы за мяне ў сто разоў быў. І чараваць умеў, і на скрыпцы іграў, і рабіў іх сам. І сталяр добры быў, калаўроты тачыў, і ўсё мог. І я раблю, то ўсё і маю. Чалавек без работы жыць не можа. І чалавекам заўсёды павінен быць. Выдумалі, нібыта людзі з малпаў зрабіліся. Глупства! Чалавек толькі з чалавека можа быць і чалавекам заставацца. Рабі чалавеку дабро, то і табе добра будзе...

Пчол во люблю. Усюды пчолы гінуць, а ў мяне вядуцца. Бо пра Бога не забываю, і ён мне дае. Добра, што сёлета цукар сталі даваць, а то і мае пчолы пагінулі б. То мёду ў мяне многа. Частую ўсіх, нават тых суседзяў, якія скоса паглядалі, што ў мяне курэй больш, чым у іх, што я лепш жыву. Бо раблю! І ты рабі! А то ўсе ўсё просяць зрабіць: Пётрачка, ты ж усё ўмееш! А ты сам спрабаваў? Можа, і ты ўмееш! Дык жа іншы хоча, каб нічога не рабіць, а толькі есці ды спаць. А мы ж ад бацькі, ад маці прывыклі да работы. Ідзе маці рабіць — нас кліча. А цяпер: школу паканчаюць — і па рэстаранах. Бо не стала сёння сапраўдных гаспадароў. Даўней жа мужык—самая рабочая сіла была, усіх карміў. Зямлю паадбіралі, хутары пазносілі... І якія хутары! Былі ў нас такія гаспадары, мелі трохі зямлі, дык яны ў жніво спаць лажыліся не на ложак, а на цвёрдую лаву, каб не праспаць больш, чым можна ў такую пару. Дык жа іх павывозілі... Мужыкоў знішчожылі, задумалі паноў з іх паробіш? Нехта ж і рабіць павінен... Ды і няма нічога горшага, чым пан з мужыка. А во цяпер зноў трэба з паноў мужыкоў зрабіць. Ой, нялёгка будзе...

Я і не піў ніколі. Можа, яно калі і кепска было. Раней жа соткі штогод перамервалі, за кожны лапік зямлі чапляліся. А хто з брыгадзірам выпʼе, да таго і не чапляліся. Яно часам у добрай кампаніі і трэба выпіць: тады і пагамоніш, і абдымацца палезеш. Але ж каб не лішне... Гэта зелле толькі пачні піць, то і са свету чалавека звядзе. Дзякуй Богу, што гарэлкі, чорта гэтага, цяпер не стала. Колькі ў нас з-за яе павесілася, забілася, утапілася. Як трохі гэтага чорта выпʼе, дык яму больш давай. І канца не будзе...

Слухай жа, як я гэтыя фігуры пачаў рабіць. Была ў нас тут адна медсястра, Данора, разам з маёю бабаю ў бальніцы рабіла. Што яна за чалавек — не ведаю, але неяк маю бабу нечым такім напаіла, амаль сілком, што тая месца сабе не знаходзіла. А потым і зусім яе паралізавала... І яна мучыцца, і я мучуся. Ужо і прасіць мяне пачала: завязі куды ў бальніцу, што ж ты са мною мучыцца будзеш. А як памерла яна (гэта ў восемдзесят шостым), то я, канешне, пагараваў, але і думаю, як жа за гэтую наглую смерць вінаўніцы аддзячыць? Дай, думаю, фігуру зраблю і каля касцёла пастаўлю, каб Данора, чорт гэты, бачыла і людзі каб бачылі. Мой жа бацька некалі такія фігуры рабіў, у нашым касцёле стаяць. То няўжо ж і я так не змагу? Выразаў Матку Боскую, стаіць на змяі, на якой напісана: «Змяя ты, Данора!» І ксёндз ведае пра гэтую гісторыю, і людзі ідуць да касцёла дык бачаць, і Данора хай паглядзіць!



А потым стаў і другія фігуры рабіць. Хацеў у агародчыку перад вокнамі паставіць, пайшоў у сельсавет пытацца. Добра зроблена, кажуць, але выстаўляць нельга — рэлігійныя! У раён хадзіў—і там тое ж сказалі. Ладна, думаю, нельга дык нельга. А тут неяк бачу ў газеце, Гарбачоў з бацюшкам сядзяць. Ну не пра гарэлку ж яны гавораць! Пэўна ж, пра рэлігію. Дай, думаю, выстаўлю свае фігуры, а там што будзе, тое і будзе. Паставіў... І ламалі іх, і білі. Біце, думаю, а я зноў зраблю. І рабіў, і ставіў па новай...

Неяк бягуць у хату дзеці, клічуць мяне: начальства прыехала! Выбягаю са страхам, руку баюся падаць — гразная! А тыя мне: што ты, бацька, твае рукі залатыя, рабі больш... Вось табе і на! То дзякуй, што нарэшце такія перамены насталі, бо не само ж начальства раптам такім разумным стала: то не давала, то — больш рабі!

...Як паставіў гэтыя фігуры, то і самому радасць, і людзям. Сяду на пянёк раніцай, палюбуюся... Людзі спыняюцца, глядзяць. Гэта пан Езус з любоўю да людзей, гэта Матка Боская, а тая ў руках «Міру—мір» трымае. Ты не смейся, не смейся, гэта каб чапляліся менш... На франтоне—пан Езус да Егіпту на асле ўцякае. А там—Юрка, Юрый Пераможац. Анёл уверсе... Леў з карча зроблены, цэментам абмазаны. Вочы зялён[illegible] ад бутэлькі піва ўстаўле[illegible] [illegible]мпа чырвоная і лямпачкі [illegible] стаяць. Ноччу як уключу, лямпа і вочы гараць, дзеці на вуліцы збяруцца, скачуць, пішчаць ад радасці...

Раблю пакрыху. У нашым касцёле мае фігуры ёсць, у Друі ёс[illegible] Музей наш, у Браславе, па[illegible] [illegible]на заказвае. Летам, праўда, асабліва няма калі: гаспадарка, пчолкі. А зімою зноў буду выразаць...

**Запісаў і здымкі зрабіў Яўген САХУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: П. ЗЯЛЯЎСКІ; работы майстра.**

## спорт

Матч на першынство свету па шахматах паміж Г. Каспаравым і А. Карпавым, безумоўна, — галоўная спартыўная падзея года. Адна палова партый будзе згуляна ў Нью-Йорку, а другая — у Лондане. Пачатак лепей атрымаўся ў чэмпіёна свету. Г. Каспараў пакуль вядзе з перавагай у адно ачко. Матч праходзіць пры вялікай колькасці гледачоў.

Вялікую «аўдыторыю» балельшчыкаў мае намер сабраць і знакаміты Пеле. Хутка легендарнаму футбалісту спаўняецца пяцьдзесят гадоў. І ў яго гонар зборная свету праўдзе матч з камандай Бразіліі. Але, як стала вядома ў апошні час, не на радзіме юбіляра, а ў Італіі. Тут, як кажуць, усё зрабілі грошы.

Для нас жа гэта не будзе мець вялікага значэння. Важна іншае: кароль футбола запрасіў згуляць за зборную свету мінчаніна Сяргея Алейнікава.

Цікавае паведамленне атрымана з Віцебска. Тут прайшло пасяджэнне выканкома Спецыяльнага алімпійскага камітэта нашай краіны. На ім прынята рашэнне аб удзеле савецкіх спартсменаў у Сусветных гульнях інвалідаў у 1991 годзе.

Па традыцыі на розыгрыш прэзідэнцкага Кубка-мемарыяла Джона Кенэдзі ў ЗША запрашаюцца беларускія каманды. І выступаюць яны вельмі добра. Летась ганаровы трафей дастаўся мінскаму «Промню», а сёлета перамогу святкаваў «Будаўнік» з Брэста.

На гэтых спаборніцтвах сярод жанчын гродзенскі «Рытм» заняў другое месца.

Але найбольш удала ў апошнія дні выступілі за мяжой беларускія дзюдаісты. На міжнародным турніры ў Чэха-Славацкай федэратыўнай рэспублікі залатыя ўзнагароды заваявалі М. Цюльпараў, В. Пясняк, Л. Свірыд, Я. Дамінін.

У гэты час беларускія спартсменкі выступалі дома на першынстве Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. Ірына Емяльянава стала чэмпіёнкай. А Іна Тарапеева і Аліна Тарнашэвіч — сярэбранымі прызёрамі.

Ужо вядомы сапернік мінскага СКА ў адной восьмай фіналу розыгрыша еўрапейскага Кубка ўладальнікаў кубкаў. Гэта венгерскі клуб «Брамац». Гульні адбудуцца ў лістападзе. Аб іх выніках мы паведамім нашым чытачам у наступных нумарах газеты.



## РЭКОРДНЫЯ КЛУБНІ

Пра сёлетні неўраджай бульбы ў рэспубліцы мінчанка Зінаіда Алейнік добра ведала. І ці не таму не спяшалася на свой садовы ўчастак, што ў прыгарадзе? Але ж не пакідаць на зіму неўскапаныя градкі!

Якое ж было здзіўленне Зінаіды Васільеўны, калі ўжо пад першым кустом яна набрала амаль вядро адмысловых клубняў! Парадаваў і іх памер — рэкордны за ўсе гады.

Дамоў гаспадыня вярталася ўжо з зусім іншым настроем. Памыўшы некалькі бульбін, яна ўзважыла іх. Адна пацягнула ажно на 860 грамаў! А ўсяго набралася каля 30 такіх экземпляраў. Ураджай выйшаў на славу!

Цяпер З. Алейнік дэталёва ўспамінае, калі рабіла пасадку, як апрацоўвала глебу. Лічыць, што гэта спатрэбіцца не толькі ёй, але і суседзям па садаводчаму таварыству — дранікі надта ж смачныя атрымаліся.

## БУДЗЕ ХРАМ

Зноў загучалі званы сабора Аляксандра Неўскага ў Кобрыне. Пабудаваны ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя на месцы брацкай магілы рускіх воінаў, якія загінулі ў вайне 1812 года, храм стаў помнікам доблесці і славы.

Сабор напаткаў лёс многіх тысяч праваслаўных цэркваў краіны. У пачатку шасцідзесятых гадоў XX стагоддзя ён быў закрыты і перададзены ўладам пад філіял дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці. А калі храм нарэшце вярнулі законным гаспадарам, тыя яго рэканструявалі.

Толькі за апошнія два з паловай гады на Брэстчыне адкрыта 67 праваслаўных цэркваў, 12 рымска-каталіцкіх касцёлаў, дадзены дазвол на будаўніцтва і рэканструкцыю 25 малітоўных дамоў евангельскіх хрысціян-баптыстаў, пяцідзесятнікаў і адвентыстаў 7-га дня.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца сямʼя **Абрама і Хоні ГНЕСІНЫХ**, якія нарадзіліся ў г. Шклове былой Магілёўскай губерні і да 1917 года выехалі ў ЗША. Да 1947 года яны вялі перапіску з роднымі, з якой вядома, што жылі яны ў гарадах Нью-Йорк, Лос-Анджэлес, Чыкага.

Іх шукае **ГНЕСІНА Бэла Ісакаўна**, дачка **Айзіка ГНЕСІНА**.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра сямʼю Гнесіных, просім пісаць у рэдакцыю ці на адрас:

**212026, БССР, г. Магілёў, вул. Сурганава, д. 25, кв. 11. ГНЕСІНАЙ Бэле Ісакаўне.**




**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Індэкс 63854. Заказ № 1371.